ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№9 (30) верасень 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



# З верай і радасцю

## У Параф'янаве прайшоў фэст "Імя Марыі"

**У Параф'янаве 12-га верасня прайшоў парафіяльны фэст "Імя Марыі". Дзеля такой падзеі ў мясцовы касцёл прыбыло шмат гасцей з іншых парафій Віцебскай дыяцэзіі.**

**■ кс. Віктар Місевіч**

Не абмінулі сваёй увагай святочнае мерапрыемства мясцовыя ўлады і дзяржаўнае радыё і тэлебачанне. Прысутнічалі Валянціна Уладзіміраўна Сівіцкая – старшыня раённага Савета дэпутатаў, Аксана Іванаўна Гапанёнак – намеснік начальніка аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Докшыцкага райвыканкама і Ізабэла Чаславаўна Януковіч – старшыня Сітцаўскага сельскага выканаўчага камітэта.

Святкаванне пачалося ў касцёле, дзе сабраныя вернікі дзякуючы паслузе святароў з Докшыцкага дэканата змаглі прыступіць да сакраманту споведзі і давераць свае просьбы і падзякі Езусу Хрысту ў Найсвяцейшым Сакраманце.

Святую Імшу ўзначаліў кс. Аляксандр Амяльчэня – дырэктар беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё. Ён таксама прамовіў казанне. Святар зазначыў, што свята "Імя Марыі" ўнікальнае, таму што запрашае нас задумацца над сваёй ідэнтычнасцю. "Што значыць сёння быць хрысціянінам?" – задаў пытанне прысутным кс. Аляксандр. "І ці наогул "хрысціянін" – гэта маё імя? Якое маё хрысціянства?" – такія пытанні прагучалі падчас казання.

Кс. Аляксандр зазначыў, што быць хрысціянінам адначасова проста і складана. Проста, таму што навука Хрыста вельмі простая. Ён вучыць нас любіць, прабачаць, дапамагаць. Але складанасць хрысціянства якраз заключаецца ў выкананні гэтых наказаў. Зусім няпроста сёння верніку жыць па-іншаму, не так, як жыве сучасны свет.

Традыцыйна на заканчэнне набажэнства адбылася ўрачыстая працэсія з Найсвяцейшым Сакраментам, у якой духавенства з вернікамі прайшлі вакол касцёла.

Дзякуючы душпастырскім намаганням пробашча парафіі кс. Рамана Мурзіча свята не завяршылася ў мурах касцёла. Кс. Раман загадзя паклапаціўся, каб вернікі мелі не толькі духоўную ежу, але і змаглі пачаставацца зямнымі стравамі. Парафіяне сабраліся звонку касцёла, каб паглядзець выступленні артыстаў. Святочны настрой яшчэ больш узнялі госці з Шаркаўшчыны. Выступілі прадстаўнікі творчых калектываў "Маленькая фея", "Родныя напевы", "Мара", "Фэшн". Маладыя артысты і больш вопытныя выканаўцы спявалі песні, паказвалі цыркавыя нумары і танцавалі для прысутных.

Стала ўжо добрай традыцыяй на каталіцкіх імпрэзах бачыць гурт "Рэха" з Мінска. Параф'янаўскі фэст не стаў выключэннем. Дацямна моладзь танцавала пад вясёлыя гукі музыкі.

Унатоўпе можна было пачуць рэплікі, што многія чакаюць салюту. Гэтыя чаканні апраўдаліся. Спачатку з нумарам вогненнага шоу выступіў Міхаіл Факер з Мінска, а потым над вежамі касцёла зазіхацелі іскры салюту. Моладзь і старэйшыя віталі феерверк апладысментамі і радаснымі воклічамі.

Бог у сваёй мудрасці падарыў чалавеку магчымасць адпачынку. Добра, калі гэты адпачынак праходзіць у супольнасці. Калі чалавек можа сустрэцца з іншым чалавекам і падзяліцца з ім радасцю. Напэўна, фэст "Імя Марыі" ў Параф'янаве яшчэ больш згуртаваў вернікаў і наблізіў іх да Бога. Кс. Раман Мурзіч зазначыў, што шчаслівы, калі бачыць сваіх парафіян з'яднанымі на дарозе да Госпада. Калі ўся парафія ўяўляе сабой адзіную вялікую хрысціянскую сям'ю.




### Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік". Кошт падпіскі на месяц – **3000 рублёў**, на тры месяцы – **9000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

Наш падпісны індэкс 63783

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. "Каталіцкі Веснік" таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

**Афіцыйна** Кс. Уладзіслаў Лазар пад арыштам Старонка 3

**Гісторыя** Адкуль хрысціянства ў Кітаі? Старонка 2

**Псіхалогія** Парады для цяжарных Старонка 6

**Інтэрв'ю** Жыццё ў калясцы Старонка 4

**Ліда** Свята для ўсяго горада Старонка 4


Касцёл у Пекіне

# Касцёл у Кітаі

**Made in China! Менавіта з гэтых слоў адбываецца нашае першае знаёмства і сутыкненне з кітайскай культурай і традыцыяй. Праўда, трэба прызнаць, што знаёмствам гэта можна назваць з вялікай нацяжкай. Што мы ведаем пра вельмі старажытную цывілізацыю? Што мы ведаем пра кітайскія быт, архітэктуру, мастацтва? Прыпамінаецца толькі Вялікая кітайская сцяна як спадчына культуры сусветнага значэння ды, можа, надзвычай складаная чайная цырымонія…**

**кс. Віталь Сідорка**, *гісторык*

На жаль, для большасці з нас веды аб Кітаі абмяжоўваюцца вышэйназваным надпісам на англійскае мове, які можна ўбачыць на бытавой тэхніцы, адзенні, посудзе, касметыцы, прадуктах… Практычна на ўсім! Для больш "прасунутых" Кітай можа атаясамлівацца са шматлікімі фільмамі ці навінамі з інтэрнэту пра ўсё большую і большую эканамічную магутнасць камуністычнай краіны. Таму нічога дзіўнага, што звесткі аб католіках альбо вельмі малыя, частковыя, альбо ўвогуле адсутнічаюць. Нягледзячы на гэта, Каталіцкі Касцёл у Кітаі мае сваю шматвяковую гісторыю.

## Першыя кітайскія хрысціяне

Першыя звесткі пра хрысціянства ў гэтым рэгіёне паходзяць прыкладна з VII стагоддзя, калі вызнаўцы Хрыста з Персіі, ці больш дакладна – з Сірыі і Месапатаміі, ратуючыся ад пераследу, дайшлі аж да Кітая. Там яны жылі і дзейнічалі на працягу амаль двух стагоддзяў, прапаведуючы Евангелле і нават навяртаючы прадстаўнікоў кітайскай арыстакратыі. Аднак пад уплывам розных гістарычных перыпетый хрысціянства на кітайскай зямлі паступова занікае, аж да поўнага забыцця.

Новы этап развіцця хрысціянства ў Кітаі датуецца XVI стагоддзем. Цікава, што першыя крокі, якія значна паўплывалі на абвяшчэнне Евангелля ў гэтай усходняй краіне, былі зроблены далёка ад яе, а менавіта ў Рыме. Там у 1577 годзе Папа Рымскі прыняў на прыватнай аўдыенцыі некалькі езуіцкіх місіянераў, сярод якіх быў малады італьянец Матэа Рычы (Matteo Ricci). Менавіта яму (а таксама і яго ордэну – езуітам) было наканавана адыграць галоўную ролю ў навяртанні Кітая на хрысціянства і атрымаць у будучыні пачэсны тытул "апостала Кітая".

Малады і вельмі адукаваны езуіт, атрымаўшы хрыстыянізацыйную місію ад рымскага пантыфіка, у 1582 годзе прыбыў у Макаа – партугальскую калонію, дзе ўжо некалькі гадоў існавала каталіцкае біскупства. Там пад уплывам і кіраўніцтвам вопытнага езуіцкага місіянера Алесандра Валіньяна (Alessandro Valignano) ён пачаў вывучаць кітайскую мову і культуру. Малады і таленавіты Матэа зразумеў, што для таго, каб данесці мясцоваму насельніцтву Хрыстова Евангелле, неабходна добра ведаць іх звычаі, традыцыі і культуру. Цікавы факт: распачынаючы сваё прапаведванне ў Кітаі, Матэа і яго паплечнікі першапачаткова апранальі ўбранне будыйскіх манахаў, а пазней выкарыстоўвалі традыцыйнае кітайскае адзенне. Такое стаўленне і пашана мясцовай культуры дазволілі дасягнуць вельмі добрых вынікаў у справе евангелізацыі. У 1615 годзе ў тагачасным Кітаі жыло ўжо каля 15 тысяч хрысціян, а ў 1700 годзе існавалі чатыры дыяцэзіі і было каля мільёна вернікаў!

> **Матэа і яго паплечнікі першапачаткова апранальі ўбранне будыйскіх манахаў**

> **...у 1700 годзе ў Кітаі існавалі чатыры дыяцэзіі і было каля мільёна вернікаў**

## Акамадацыйныя спрэчкі

Аналізуючы заснаванне і развіццё Каталіцкага Касцёла ў Кітаі, неабходна прыгадаць яшчэ адну справу – пра так званыя акамадацыйныя спрэчкі. "Акамадацыя" паходзіць ад лацінскага слова "acommodatio", што ў даслоўным перакладзе азначае "дастасаванне". Пад гэтым тэрмінам маецца на ўвазе працэс свайго кшталту "ахрышчэння" некаторых мясцовых традыцый і звычаяў. Так, напрыклад, езуіцкія місіянеры выкарыстоўвалі мясцовыя тэрміны і сімвалы для іх аналогіі з хрысціянскімі. Акрамя таго, дадзеная сістэма прадугледжвала некаторыя паслабленні і змены ў літургічнай і паставай практыцы, якія былі цяжкія для зразумення і ўспрымання кітайцамі.

Варта зазначыць, што новы падыход да абвяшчэння Евангелля не ўсімі ўспрымаўся пазітыўна. Пасля таго, як у хрыстынізацыйны працэс уключыліся францішканеі дамініканe, а пазней і місіянеры з Францыі, усё больш настойліва загучалі галасы пра забарону езуіцкага спосабу евангелізацыі. Усё гэта прывяло да таго, што Папа Рымскі Клімент XI, а пазней і яго наступнік Бэнэдыкт XIV афіцыйна забаранілі выкарыстоўваць так званыя "кітайскія абрады". Вынікі гэтага рашэння былі вельмі сумныя: пачаліся крывавыя пераследы хрысціян у Кітаі, і наступіла амаль татальная забарона хрысціянства.

## Касцёл і кітайскі камунізм

Новы імпульс развіццю Касцёла ў Кітаі надало XX стагоддзе. Былі наладжаны сувязі з Апостальскай Сталіцай, паўставала мясцовая каталіцкая іерархія і школы, развіваліся каталіцкія медыі, паступова ўзрастала лічба вернікаў. Але прыход да ўлады камуністаў у 1949 годзе спыніў працэс аднаўлення Каталіцкага Касцёла і змусіў яго практычна да падпольнага існавання. Таталітарная камуністычная сістэма, якая ў сваёй істоце не дапускала права існавання іншых поглядаў і ідэй, безумоўна, пастаралася знішчыць Каталіцкі Касцёл. Замыкаліся святыні і школы, арыштоўваліся святары і біскупы, выдаляліся місіянеры… Тая ж самая тэндэнцыя адносна каталіцтва, можа, у больш лагоднай форме, але прагледжваецца і па сённяшні дзень. Кантралявацъ, забараняць, абмяжоўваць – вось у якіх рэаліях жыве сучасная касцельная супольнасць. Таму менавіта кітайскім вернікам, якія на ўласным вопыце спазналі, што такое катакомбы, неабходна нашая малітва і духоўная падтрымка.

# "РУХ МАРЫІ" Ў ГРОДНЕ: НАМ – 5 ГАДОЎ!

**Пры гродзенскай парафіі Божай Міласэрнасці ў мікраараёне Вішнявец 1-га верасня 2008 года пачала сваё існаванне Каталіцкая садружнасць "Рух Марыі". Арганізатарам, ідэйным натхняльнікам і кіраўніком з'яўляецца катэхетаніматар Алег Гарбачоў.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

8 верасня,ва ўрачыстасць Нараджэння Маці Божай, садружнасць адзначыла свой пяты дзень нараджэння. 5 гадоў – маленькі тэрмін, але за гэты час шмат працы было зроблена, шмат пілігрымак, адпачынкаў і мерапрыемстваў праведзена.



Святкаванне юбілею пачалося з урачыстай нядзельнай св. Імшы, у якой удзельнікі "Руху Марыі" падрыхтавалі чытанні, псалом, малітву вернікаў і працэсію з дарамі.

Падчас Літургіі кс. Эдуард Сінкевіч, які з'яўляецца духоўным кіраўніком садружнасці, маліўся ў інтэнцыі дзяцей, моладзі, а таксама іх бацькоў. Напрыканцы Эўхарыстыі святар павіншаваў юбіляраў і пажадаў далейшага развіцця не толькі ў Гродне, але і ва ўсёй Беларусі.

Працяг святкавання, а менавіта канцэрт і салодкі стол адбываліся ў катэхетычнай зале пры парафіі.

"Калі нам споўніўся адзін год, я сказаў, што мы пачынаем жыць, два гады – рыхтуемся да дзіцячага садка, тры гады – пайшлі ў дзіцячы садок, чатыры гады – сталеем у дзіцячым садку, і вось пяць гадоў – цяпер мы рыхтуемся да пачатковай школы", – прамовіў да прысутных на свяце спадар Алег.

Шмат віншаванняў прагучала для Алега. Дзякавалі кс. Эдуарду, які дапамагае ў развіцці Руху. А таксама словы ўдзячнасці прагучалі для Чаславы Іванаўны – маці кіраўніка садружнасці. "Калі б не было Вас, не было б Алега, а калі б не было Алега, не было б нас і "Руху Марыі". Вялікі дзякуй Вам за сына!" – такія словы скіравала да сп. Чаславы адна з удзельніц Руху Яна Мілюк.

Вершы, песні, відэапрэзентацыі-справаздачы былі прадстаўлены ў канцэртнай праграме.

Спадзяёмся, што на наступны, шосты дзень нараджэння ўдзельнікаў "Руху Марыі" будзе яшчэ больш. Шчыра ім гэтага жадаем!

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Малгажата Бервячонак** (в. Дваранцы, Глыбоцкі р-н), **Марыя Матус** (г. Валожын), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Зоф'я Шылко** ( г. Ліда), **Яніна Жэмайтэль** (г. Ліда), **Францішка Краско** (г.п. Ветрына, Полацкі р-н), **Вольга Парневіч** (агр. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Людміла Кароськ** (ст. Параф'янава, Докшыцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

Докшыцы

# Семінар па Кананічным Праве



**На здымку:** прафесар кс. Лешэк Адамовіч.

**Па запрашэнні віцэ-правінцыяла ордэна капуцынаў айца Андрэя Жылевіча кляштар у Докшыцах наведаў кіраўнік катэдры права Каталіцкіх Усходніх Касцёлаў у Люблінскім каталіцкім універсітэце прафесар кс. Лешэк Адамовіч.**

**■ кс. Віктар Місевіч**

Падчас семінара закраналіся важныя пытанні з розных галінаў душпастырства, дзе дакладнае выкананне касцельнага права вельмі важнае. Свой даклад ксёндз-прафесар пачаў з цытаты Папы Яна Паўла ІІ, які сказаў, што "няма пастырскай любові без пастырскай справядлівасці". Кс. Лешэк таксама звярнуў увагу слухачоў на тое, што пакаранне ў праве – гэта самы апошні спосаб навяртання грэшніка. Выкладчык зазначыў, што не існуе супярэчнасці паміж душпастырствам і правам. "У рэшце рэшт, мэтай права ёсць Хрыстус", – падкрэсліў прафесар.

Асаблівую ўвагу слухачоў кс. Лешэк звярнуў на неабходнасць дакладнага вядзення парафіяльных кніг і шчыльныя кантакты з касцельнымі судамі, супрацоўнікаў якіх ён параўнаў з людзьмі, што маюць ключык ад табернакулюма. Сапраўды, у некаторых выпадках толькі касцельны суд можа вырашыць складаную жыццёвую сітуацыю вернікаў і даць ім магчымасць прыступаць да святых сакрамантаў.

У другой палове семінара прафесар адказаў на шматлікія пытанні айцоўкапуцынаў па сужэнскім праве, па праве і сакрамантах, а таксама па іерархічным ладзе Каталіцкага Касцёла. Кс. Лешэк Адамовіч паведаміў, што рыхтуюцца змены ў Кодэкс Кананічнага Права 1983 года. Асаблівым чынам будзе абноўленая шостая кніга кодэкса, якая датычыць карнага права.

# Інфармацыя пра кс. Уладзіслава Лазара



**Паводле паведамлення з 54-га пленарнага пасяджэння Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі.**

Пасля доўгага чакання сёння (12 верасня. – Заўвага рэд.) Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі атрымала ад дзяржаўных органаў інфармацыю пра затрыманне кс. Уладзіслава Лазара, якая зводзіцца да наступнага:

1. Ксёндз Уладзіслаў Лазар сапраўды затрыманы органамі КДБ і знаходзіцца ў СІЗА КДБ у г. Мінску.

2. Ксёндз Уладзіслаў Лазар абвінавачваецца ў парушэнні п. 1 арт. 356 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. Яго крымінальная адказнасць вызначаецца п. 6 арт. 16 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь.

3. Ксяндзу Уладзіславу Лазару ставіцца ў віну перадача грошай і матэрыяльных каштоўнасцяў чалавеку, які абвінавачваецца ў шпіянажы на карысць іншай дзяржавы.

4. На запыт касцельнай іерархіі было атрымана запэўненне, што ў дачыненні да кс. Уладзіслава Лазара будуць захоўвацца ўсе яго правы згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

5. У найбліжэйшай будучыні Апостальскаму Нунцыю ў Рэспубліцы Беларусь арцыбіскупу Клаўдыё Гуджэроці будзе дадзена магчымасць асабістай сустрэчы з кс. Уладзіславам Лазарам.

6. Дзяржаўныя ўлады гарантуюць, што касцельная іерархія будзе рэгулярна інфармаваная пра выні́кі следства, якое працягваецца.

7. Згодна з паведамленнем дзяржаўных уладаў, гэты эпізод не паўплывае на клімат даверу Рэспублікі Беларусь да Апостальскага Пасаду і павагу да Каталіцкага Касцёла.

Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў Беларусі звяртаецца з заклікам да вернікаў дарычыць Божай міласэрнасці гэтую балючую праблему.

*Паводле матэрыялаў catholic.by*

Дзісна

# Футбол па-суседску

"Добры сусед – падарунак лёсу", – так кажа ўсходняя мудрасць. А кніга Прыпавесцяў Саламона параўноўвае добрага суседа з братам (пар. Прып. 27,10).

Міністранты суседніх парафій Дзісны і Мёраў 23 жніўня сустрэліся, каб правесці таварыскі матч па міні-футболе. Мярчане на чале з кс. Антонам Лагунёнкам завіталі ў Дзісну. Пасля кароткай размінкі каманды абмяняліся прывітаннямі і распачалі матч.

Першы тайм скончыўся з лікам 1:1. Таму пасля перапынку панавала атмасфера спаборніцтва і жадання перамогі. Мяч трапляў у вароты і адной, і другой каманды, дадаючы напружання як футбалістам, так і заўзятарам.

Фінальны свісток суддзі зняў усе пынанні пра пераможцу: 2:2. Перамагло сяброўства! Каманды паказалі добрую і цікавую гульню, а сама сустрэча прайшла ў духу сапраўднага добрасуседства.

*Кс. Аляксандр Грыцкевіч*

# НАЙЛЕПШАЯ ПРАФІЛАКТЫКА СУПРАЦЬ СНІДУ

**Паводле дадзеных Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя, у Беларусі амаль 15 тысяч чалавек маюць страшны дыягназ – сіндром набытага імунадэфіцыту. У Гродзенскай вобласці колькасць такіх хворых павялічылася да 626 чалавек, у самім Гродне – да 107.**



Найбольш інфікаваных сустракаецца сярод беспрацоўных (37,9%), на другім месцы – людзі, што працуюць (28,4%) і зняволеныя (22,4%). Вельмі насцярожвае, што 57,7% хворых – гэта моладзь ва ўзросце ад 15 да 29 гадоў.

Чаму так адбываецца і што таму прычынай, партал grodnensis.by запытаўся ў доктара маральнага багаслоўя кс. Мікалая Ціхановіча.

"Асноўная з прычын распаўсюджвання СНІДу хаваецца не ў недахопе інфармацыі пра тое, якім павінен быць бяспечны секс, як гэта часта сцвярджаецца СМІ, але ў тым, якое ёсць стаўленне да сексуальных адносінаў. Хрысціянскія каштоўнасці многімі ставяцца пад сумнеў, людская сарамлівасць успрымаецца як нешта непатрэбнае чалавеку XXI стагоддзя. Паводзіны, адзенне, нават музычная культура таму непасрэдны доказ. Сёння адзіны спосаб прадухіліць далейшы распаўсюд СНІДу – гэта навучыцца размаўляць з маладым пакаленнем на тэму сексуальных адносінаў, не саромецца гаварыць "пра гэта" і даваць адказы на ўсе пытанні дзяцей і падлеткаў, пакуль яны не адшукалі іх у сеціве ці сярод аднагодкаў," – паведаміў святар.

Перад размовай пра сексуальныя адносіны трэба ўспомніць, што ёсць годнасць чалавека, яшчэ раз прыгадаць, што інтымныя стасункі не могуць існаваць самі па сабе – гэта плод сужэнскай любові. Пачынаць іх да шлюбу – значыць, не паважаць свайго будучага мужа ці жонку і пазбаўляць іх вялікага дару чысціні. Тым больш трэба сцерагчыся заходняй моды на аднаполыя сексуальныя кантакты: яны з'яўляюцца парушэннем законаў чалавечай прыроды, бо гэтыя законы створаныя Богам.

Каб настаўленні не павіслі ў паветры і не засталіся толькі пустымі словамі, дарослым неабходна стаць добрым прыкладам для сваіх дзяцей, узорам хрысціянскай маралі. Прынцып "рабі, як я" – дзейсны і сёння.

Сям'я, святары, настаўнікі і выкладчыкі – усе мы адказныя за тое, якім будзе лёс маладога пакалення.

*Паводле grodnensis.by*

Мёры

# ХОР «FIAT» ЗАПІСАЎ НОВЫ ДЫСК

Трэці дыск запісаў парафіяльны хор «Fiat» мёрскага касцёла з блаславлення пробашча кс. Крыштафа Мянкіны.

Першыя два – «Крыжовая дарога» (для ўнутранага карыстання) і зборнік каталіцкіх спеваў пад аднайменнай назвай – «Fiat» – пабачылі свет некалькі гадоў таму.

Сёлетні дыск, які змяшчае калядныя песні, запісалі летам з удзелам групы Піта Паўлава, знакамітага беларускага гітарыста і вакаліста, а некалькі песень – і пад акампанемент музыкаў яго гурта «Піт & Паф». Таксама акампанавалі хору арганіст Дзмітрый Гарэлаў, які родам з Фарынава, і скрыпачкі Валянціна Казакевіч і Марыя Кашкур з Друі.

Запісу дыска, несумненна, папярэднічала доўгая праца, шліфоўка і ўдасканаленне кожнага твора пад кіраўніцтвам арганісткі Анжэлы Кіпрушавай. Час на рэпетыцыі харысты знаходзілі вечарамі, пасля працы і хатніх клопатаў.

Трэба адзначыць, што хор мае багаты рэлігійны вопыт. Сваім спевам упрыгожвае службы на святы, кожную нядзелю, а таксама запрашаецца на ўрачыстасці ў іншыя парафіі.

*Вольга Вішнеўская*

Порплішча

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Мы, вернікі парафій Маці Божай Каралевы Кароны Польскай з вёскі Порплішча, Сэрца Пана Езуса з Крулеўшчыны, Св. Юрыя з вёскі Барсукі, просім павіншаваць нашага дарагога пробашча Юрыя Бараўнёва з нагоды дзесяцігоддзя святарства. Святарскае пасвячэнне ён атрымаў 4 верасня 2003 года ў Паставах. Жадаем кс. Юрыю моцнага здароўя на доўгія гады, апекі Найсвяцейшай Маці, блаславенства, дароў Духа Святога. Няхай добры Бог асвеціць зямны шлях гэтага цудоўнага святара, каб з яго казаннямі і дапамогай мы маглі ратаваць і радаваць нашы душы, вучыцца і вучыць дзяцей быць спагадлівымі і міласэрнымі, з Богам ісці ўсё сваё жыццё і заўсёды адчуваць сябе часткай паўсюднага Касцёла.

Яшчэ хочам падзякаваць пробашчу за яго залатыя рукі, старанне, за ўсё, што было зроблена ў нашых парафіях за восем гадоў яго служэння. Мы заўсёды памятаем кс. Юрыя ў сваіх малітвах.

*З удзячнасцю ад імя ўсіх парафіянаў,*
***Нарбэрта Камянецкая***

# Жыццё ў калясцы



**Уладзіміру Сідараву быў толькі 21 год. Яго жыццё поўнілася ўсмешкамі, радасцю, бесклапотнасцю. Але аднойчы здарылася вялікае няшчасце: траўма шыйнага аддзела пазваночніка. Потым – жыццё ў калясцы. Усё на нейкі момант стала шэрым, апатычным...**

Зараз Уладзіміру ўжо 29. Я пазнаёмілася з ім на Еўрапейскай сустрэчы моладзі Taize ў Рыме. Памятаю яго аптымізм. Хацелася б, каб кожны чалавек вось так актыўна змагаўся з жыццёвымі цяжкасцямі, як ён.

У сённяшнім нумары Уладзімір раскажа «Каталіцкаму Весніку» гісторыю свайго жыцця.

**– Уладзімір, раскажыце крыху пра тое, што з Вамі здарылася?**

– У 21 год я атрымаў траўму шыйнага аддзела пазваночніка. Гэта адбылося, калі ныраў у ваду. Для родных гэта было сапраўднай трагедыяй. Мне вельмі была патрэбная падтрымка. І я вельмі ўдзячны сябрам, якія наведвалі мяне ў шпіталі кожны дзень.

**– Як змянілася жыццё?**

– Пасля гэтага здарэння мне давялося вучыцца жыць наноў. Патрэбна было пераадолець сябе і сесці ў каляску.

**– Якую ролю адыгрывае вера ў Вашым жыцці?**

– Вера ў Госпада дапамагае рухацца далей, не азіраючыся назад, на былое жыццё. Бог дапамагае пераадолець усе жыццёвыя цяжкасці.

**– Што зараз Вас цікавіць?**

– У тым годзе я пачаў займацца фехтаваннем. Каб трапіць на трэніроўкі, я некалькі раз у тыдзень езджу ў Брэст. Бо сам жыву ў мястэчку Астрамечава. Гэта дзесьці каля 20 кіламетраў ад горада.

**– Ведаю, што Вы вялікі аматар падарожжаў?**

– Так! Маім першым падарожжам ужо ў калясцы быў Рым. Туды мне прапанавала паехаць дабрачынная арганізацыя «Памяць» з Ваўкавыска. А ім у сваю чаргу прапанаваў Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. Гэтая паездка адбылася таксама дзякуючы грэка-каталіцкай царкве св. Язэпа ў Мінску і а. Аляксандру. Вельмі хацелася пабываць у Еўропе, паглядзець на архітэктуру розных краін. У Рыме мне спадабаліся адносіны людзей.

**– Чула, што, ужо будучы прыкаваным да інваліднай каляскі, Вы паступілі ва ўніверсітэт.**

– Так. 2 гады назад я паступіў у Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна на сацыяльна-педагагічны факультэт. Мне падабаюцца ўсе прадметы, якія выкладаюць. У маёй групе вучацца амаль усе дзяўчаты. Часам адпачываем разам пасля заняткаў.

**– Наколькі зручная гарадская інфраструктура для інвалідаў?**

– Хацелася б, каб безбар'ернае асяроддзе было лепшым. Перашкаджаюць вялікія бардзюры. Ды і не паўсюль ёсць месцы для паркоўкі інвалідных вазкоў. Прыемна ўразіў Рым. Там парковачныя месцы ніхто не займае, паўсюль нізкія з'езды.

**– А як дапамагае дзяржава?**

– Дзяржава дае сродкі для рэабілітацыі. Напрыклад, вярнула мытны збор за аўтамабіль, куплены за мяжой. Гэта была вельмі істотная дапамога для мяне.

**– Чаго Вы хочаце дасягнуць у жыцці?**

– Хочацца рэалізаваць сябе ў спорце. Быць карысным для людзей. Думаю, што і сэнс жыцця ў тым, каб рабіць усё магчымае для шчасця людзей, якія знаходзяцца вакол. Мне таксама хочацца паказаць іншым, не абавязкова людзям з абмежаваннямі, што жыць можна ў любых жыццёвых сітуацыях!

*Гутарыла Ірына Грэйць*

# Свята для ўсёй Ліды

**14 верасня стала асаблівым днём для парафіян касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе: сёлета свята парафіі супала з 690-годдзем горада.**

■ **Вольга Пашкевіч**, *тэкст;* **Марына Пашкевіч**, *фота*



Рыцарскі турнір, фестываль квасу, горад майстроў, шматлікія канцэртныя і конкурсныя праграмы – усе гэтыя мерапрыемствы чакалі кожнага, хто апынуўся ў гэты дзень у Лідзе. Але галоўная падзея для кожнага верніка – сустрэча з жывым Богам – адбылася, канешне, у Фарным касцёле.

Парафіяне і госці Ліды сабраліся разам на ўрачыстай Святой Імшы. Раздзяліць радасць самай старажытнай парафіі горада прыехалі шматлікія святары і кансэкраваныя асобы. Узначаліў Літургію ксёндз-прэлат Вінцэнт Лісоўскі, які ў гэты дзень адзначыў 32-годдзе святарскага пасвячэння.

У звернутым да вернікаў слове ксёндз Руслан Мазан PS прыгадаў гісторыю свята і падкрэсліў вялікую ролю, якую грае Крыж у справе Збаўлення. Мы часта ўспрымаем яго толькі як цяжар і наракаем на Бога, калі на нашым жыццёвым шляху сустракаюцца боль і цярпенне. Але варта памятаць, што менавіта праз крыж мы набліжаемся да Езуса. Папершае, таму, што Ён заўсёды побач, нясе гэты крыж разам з намі. А па-другое, таму што праз свой маленькі крыж мы дапамагаем Езусу несці Ягоны і такім чынам удзельнічаем у справе Збаўлення.

Таксама пробашч парафіі, кс. Уладзімір Гуляй, у звароце да прысутных падкрэсліў, што крыж заўседы знаходзіцца ў цэнтры кожнай святыні і ў цяжкія хвіліны мы павінны глядзець на яго, каб атрымаць сілы працягваць наш шлях да Неба, як калісьці праз меднага змея атрымліваў аздараўленне габрэйскі народ.

Пасля Эўхарыстыі адбылася ўрачыстая працэсія і ўшанаванне рэліквій Святога Крыжа.

У гэты дзень шчырую усмешку можна было ўбачыць на кожным твары, і было вельмі прыемна адчуваць, што 14 верасня сапраўды стала святам для ўсіх жыхароў Ліды.

## Віншуем!

*Шчыра віншуем с. Марыну Яскевіч з Днём нараджэння! Жадаем ёй многа Божых ласкаў і апекі Маці Божай! Мы вельмі ўдзячныя с. Марыне за яе паслугу ў нашай парафіі. Сястра Марына праводзіць урокі рэлігіі для дзетак і сустрэчы для дарослых. Яна сапраўдная настаўніца. Вельмі добрая і мудрая. Яе любяць усе дзеткі і таксама мы, дарослыя. Шчыра молімся за яе і віншуем са святам!*

*Парафіяне з в. Сітцы*

Глыбокае

# Быць вучнямі Хрыста

**1-га верасня – асаблівае свята: добрае, светлае, аптымістычнае. З яго пачынаецца дарога ў цудоўны свет, які дорыць радасць пазнання і бескарыслівага сяброўства. Гэтае свята аб'ядноўвае людзей, абуджае добрыя пачуцці і светлыя ўспаміны.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Менавіта ў гэты дзень у глыбоцкай парафіі святой Тройцы адбылася ўрачыстая св. Імша з нагоды распачацця новага навучальнага і катэхетычнага года. Дзеці і моладзь, бацькі і настаўнікі вырашылі даверыць гэты час Богу, каб разам з Ім крочыць ў навуцы і працы.

“Вучоба ў школе, ва ўніверсітэце не павінна служыць нашаму ўзвышэнню над бліжнімі, над нашымі братамі, а тым больш над настаўнікамі... Настаўнік не павінен характарызавацца ў першую чаргу сваёй узнёслай паставай, а больш – чалавечнасцю”, – у гаміліі прамовіў дк. Ян Кароткін. І таксама звярнуў увагу на тое, што нават пасля заканчэння школы, універсітэта мы надалей застаёмся “вучнямі, вучнямі Настаўніка – Хрыста, які прагне, каб мы былі пакорнымі, як Ён; каб мы любілі, як Ён; каб мы служылі, як Ён”.

На заканчэнне св. Імшы а. Станіслаў Памыкала ўдзяліў спецыяльнае бласлаўленне навучэнцам на пачатак новага навучальнага года, а дк. Ян асвяціў школьныя прылады і падручнікі.



# Што б я сказаў Папу?

**Напэўна, кожны католік хацеў бы сустрэцца з Папам сам-насам і пагаварыць з ім крыху. Таму ў сённяшнім нумары "Каталіцкага Весніка" вернікі нашай краіны адкажуць, што б яны хацелі сказаць Папу Францішку, калі б здарылася нагода яго сустрэць?**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Ірына Машкарова:**

– Калі б здарылася магчымасць пагаварыць з Папам, я б падзякавала яму за яго веру, за тое, што даносіць слова Божае. Гэтым ён служыць вялікім прыкладам як для сталых людзей, так і для моладзі. Без сумневаў звярнулася б з просьбай памаліцца за Беларусь і за яе жыхароў, каб Госпад адарыў іх ласкай веры, мудрасці, паразумення і любові да бліжняга.



**Канстанцін Марціноўскі:**

– Адразу пры сустрэчы падзякаваў бы Папу за яго служэнне. А потым пацікавіўся б, як праходзіць яго звычайны дзень. Шмат газет піша на гэтую тэму. Але хацелася б пачуць пра гэта асабіста, бо тое, што я прачытаю, і тое, што пачую, будзе розным.

Яшчэ б спытаў бы такую рэч: "Што турбуе цяпер Вас больш за ўсё, і якую праблему Вы б назвалі галоўнай на дадзены момант у Касцёле?"



**Юлія Коц:**

– У дзяцінстве ў мяне было ўяўленне, што Папа Рымскі – гэта той, хто сочыць за мірам і парадкам ва ўсім свеце. Ён нібы галоўны Прэзідэнт усёй планеты, які не толькі назірае за працай сваіх "падначаленых", але і выдае свае "наказы", седзячы на балконе сабора. Для мяне пасада Папы здавалася самай цікавай. Ужо потым я зразумела, што яго так званыя "наказы" не ўсе людзі стараюцца выконваць. Таму першае, што зрабіла б пры сустрэчы, – падзякавала б за яго самаахвярнае служэнне, за тое, што ён згадзіўся прыняць гэты вельмі адказны пост і ўласным прыкладам паказвае веру і пакору сапраўднага хрысціяніна.

Я б папрасіла Папу благаславіць нашу краіну. І, канешне ж, сказала б, што Папа Францішка ў Беларусі вельмі чакаюць!



**Андрэй Лугін:**

– Калі б я сустрэў Папу Францішка, я праспяваў бы яму сваю песню "Удзячнасць", каб падзякаваць за яго ахвярнае служэнне Богу і Касцёлу і за прыклад таго, што значыць «пакінуць усё, каб ісці за Хрыстом».

Таксама папрасіў бы паспрыяць развіццю сучаснай хрысціянскай музыкі. І, канешне ж, вельмі прасіў бы Папу прыехаць у Беларусь.



**Кс. Віталій Галец:**

– Папа – Пётр нашых часоў. Ён з'яўляецца галавой бачнага Касцёла. Гэта скала, на якой пабудаваны Касцёл. Калі б надарылася магчымасць убачыць Папу і паразмаўляць з ім, я быў бы вельмі рады. Сустрэць Папу Францішка – сустрэць пастыра, якому нас даверыў Хрыстус. Таму, безумоўна, першымі былі б словы падзякі за яго служэнне. Ведаю, што кожны католік хацеў бы сустрэцца з Папам, таму я запрасіў бы яго да нас у краіну і сказаў бы, што тут яго моцна чакаюць.

# Юбілей аднаўлення касцёла

Віцебск

**7 верасня шматлікія вернікі і святары з Віцебска і ваколіц сабраліся на ўрачыстую святую Імшу ў касцёле святой Барбары, каб адзначыць 20-годдзе рэкансэкрацыі святыні.**

**Кацярына Лаўрыненка**, *тэкст і фота; catholic.by*

Гамілію падчас Імшы прамовіў а. Міхал Ермашкевіч OP, пробашч парафіі святой Барбары з 2000-га па 2012-ы гады. Ён узгадаў, як, будучы студэнтам мастацка-графічнага факультэта мясцовага педінстытута, упершыню прыйшоў у гэтую святыню.

Апынуўшыся ў касцёле, ён убачыў невясёлую карціну: усюды стаялі рыштаванні, у скляпеннях віднеліся дзіркі, і ўсё было вельмі забруджана. Пры гэтым захаваліся знакі кансэкрацыі святыні – крыжыкі ў вяночку з галінак алівы. Дарэчы, сённяшні прэзбітэрый і бакавы алтар касцёла ўпрыгожваюць карціны, з любоўю намаляваныя яе былым пробашчам.

Айцец Міхал прыгадаў, што, зайшоўшы тады ў прэзбітэрый і гледзячы на хоры, ён адчуў: калісьці будзе служыць у гэтай святыні! Праз некаторы час тады студэнт Міхал Ермашкевіч пачаў хадзіць на Імшу, што цэлебравалася ў капліцы каля касцёла, а неўзабаве, у 1991 годзе, паехаў у Польшчу, каб паступіць у дамініканскі ордэн. Летам 1998 года а. Міхал Ермашкевіч служыў у касцёле святой Барбары прымiцыйную святую Імшу...



## Няпростая гісторыя

Гісторыя касцёла святой Барбары пачалася ў 1783 годзе, калі маршалак Гарадоцкага павета Антоні Косаў уфундаваў маленькі касцёл ля каталіцкіх могілак. У 1875 годзе касцёл быў асвечаны ў гонар святой Барбары. На той час касцёл святой Барбары знаходзіўся па-за межамі горада, таму яго называлі «падвіцебскім». Аднак для дзвюх тысяч парафіян касцёл быў замалы, таму неўзабаве на месцы старога храма быў пабудаваны новы.

За ўсю гісторыю парафія спыняла сваё існаванне прыкладна ў сярэдзіне 1930-ых гадоў. Апошні святар, які служыў у касцёле святой Барбары, – ксёндз Станіслаў Райко – быў арыштаваны і расстраляны ў 1937 годзе. Не адрадзілася

**Айцец Міхал прыгадаў, што, зайшоўшы тады ў прэзбітэрый і гледзячы на хоры, ён адчуў: калісьці будзе служыць у гэтай святыні!**

дзейнасць парафіі і ў часы ваеннага ліхалецця, а сам касцёл быў пашкоджаны. У 1950-ыя гг. на месцы каталіцкіх могілак побач з касцёлам размясцілі аўтабазу...

Наступныя падзеі, калі напрыканцы 1980-ых пачала змяняцца атмасфера ў грамадстве, выратавалі касцёл ад канчатковага разбурэння. У 1987 годзе гарвыканкам даручыў аддзелу культуры праектаванне рэстаўрацыі касцёла, каб адкрыць тут арганную залу. У 1988 годзе касцёл святой Барбары быў унесены ў спіс помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння і, такім чынам, узяты пад ахову дзяржавы.

## Адкрыццё пасля пераследу

У пачатку 1990-га года жыхарка Віцебска Станіслава Семеракова і іншыя вернікі дамагаліся адкрыцця зачыненай саветамі святыні. У тым жа годзе ў Віцебск прыехаў

**Апошні святар, які служыў у касцёле святой Барбары, – ксёндз Станіслаў Райко – быў арыштаваны і расстраляны ў 1937 годзе.**



дамініканін а. Януш Скэнчэк. Першапачаткова святую Імшу ён цэлебраваў у прыватным доме, пасля – у капліцы каля касцёла.

## Аднаўленне святыні

А колькі ж давялося папрацаваць, каб давесці святыню да ладу! "А маліцца ў касцёле пачалі яшчэ, калі ён рамантаваўся. Усюды стаялі рыштаванні, падлогі яшчэ нават не было, а мы ўжо на Імшу збіраліся, – успамінае парафіянка Рэгіна Марцюль. – Але найбольш высілкаў і намаганняў трэба было прыкласці для аднаўлення парафіяльнай супольнасці".

Нягледзячы на тое, што ўжо ў 1990 годзе віцебскія вернікі прасілі дзяржаву зарэгістраваць іх парафію, чакаць ім, аднак, прыйшлося яшчэ два гады.

7 лютага 1992 года парафія святой Барбары, нарэшце, была афіцыйна зарэгістраваная органамі ўлады і касцёл быў перададзены вернікам. Праўда, на працягу яшчэ некалькіх гадоў у касцёле адбываліся канцэрты арганнай музыкі, аднак віцебскія вернікі ўжо мелі свой дом малітвы. 5 чэрвеня 1993 года кардынал Казімір Свёнтэк паўторна асвяціў адбудаваную святыню.

З утварэннем у 1999 годзе Віцебскай дыяцэзіі касцёл святой Барбары стаў катэдральным. Пазней у Віцебску былі ўтвораны іншыя парафіі, а ў 2011 годзе віцебскай катэдрай стаў касцёл Езуса Міласэрнага. Ад пачатку адраджэння дзейнасці парафіі сваю паслугу тут нясуць дамініканцы.

# Шукаючы міру

**Вайна. Для большасці людзей у нашай краіне гэтае слова стала асацыявацца з далёкім і абстрактным паняццем. З ім мы сустракаемся або ў падручніках па гісторыі, або ў выпусках навінаў. Гэта тое, што адбываецца дзесьці там, далёка, або адбывалася калісьці.**

**а. Зміцер Чарнель**



Апошнія два гады мы рэгулярна чуем пра падзеі грамадзянскай вайны ў Сірыі. На першы погляд, здаецца, што гэта яшчэ адно далёкае чарговае вар'яцтва людскіх сілаў. Колькі іх было за апошнія дзесяцігоддзі... Аднак штосьці ў гэтай вайне ёсць больш небяспечнае. Штосьці, што "мае ўсе інгрэдыенты, каб выбухнуць вайной глабальных маштабаў, з якой ніхто не выйдзе цэлым", – як адзначыў сакратар Папскай рады «Справядлівасць і мір» манс. Марыё Тоза.

## Папа заклікае да міру

Сітуацыя вакол Сірыі пабудзіла Святога Айца Францішка выступіць з заклікам да малітвы аб міры ў гэтай азіяцкай краіне і ва ўсім свеце. У Дзень посту і малітвы 7 верасня на плошчы Св. Пятра Папа Францішак сказаў: "Вайна ніколі не была шляхам, які вёў да міру. Свет, якога мы жадаем, гэта свет згоды і міру, так, як Бог яго стварыў, але, на жаль, сёння ў ім надалей існуюць гвалт, падзелы, супрацьстаянні і войны, а гэта таму, што чалавек замыкаецца ў сваім эгаізме. Калі чалавек думае толькі пра сябе, свае інтарэсы і ставіць сябе ў цэнтры, калі захапляецца ідаламі і ўладай, калі ставіць сябе на месца Бога – тады разбурае ўсе адносіны, нішчыць усё і адкрывае дзверы для гвалту, падзелаў і канфліктаў", – сказаў Пантыфік. Папа адзначыў, што калі чалавек "разбурае гармонію са Стваральнікам, падымае руку супраць брата, каб забіць яго, тады брат, якога мы павінны ахоўваць і любіць, становіцца ворагам, з якім трэба змагацца".

"Мы ўдасканалілі нашу зброю, нашы сумленні заснулі, свае правы мы зрабілі тонкімі, каб апраўдваць сябе. Быццам бы стала нармальнай рэччу тое, што мы надалей працягваем сеяць знішчэнні, боль і смерць. Гвалт і вайна прыносяць толькі смерць, гавораць пра смерць. Гвалт і вайна маюць мову смерці", – сказаў Папа.

## Парады апостала Паўла

У такой сітуацыі, калі чалавецтва пачынае кіравацца ў сваім выбары і ўчынках зусім не пошукам Божай волі, не прынцыпамі любові і салідарнасці, хрысціянства, і хрысціяне павінны засведчыць сваю пазіцыю і прыкласці намаганні, каб гэтая пазіцыя ўвасобілася ў жыцці. 12 верасня падчас ранішняй Святой Імшы Папа Францішак у сваёй гаміліі зазначыў: "Евангелле – патрабавальнае, яно заклікае хрысціяніна да "моцных рэчаў": здольнасці прабачаць, велікадушнасці, любові да ворагаў". Пантыфік нагадаў, што апостал Павел са старонак Паслання да каласянаў заклікае апрануцца ў шчырую міласэрнасць, дабрыню, пакору, лагоднасць, доўгацярплівасць. Але як гэта зрабіць? Як гэта зрабіць у свеце жорсткасці, эгаізму і самалюбства?

Паводле Папы Францішка, адказ ясны: "Мы нашымі сіламі гэтага зрабіць не зможам. Толькі ласка можа ўчыніць гэта ў нас", – а яна прыходзіць адным шляхам: "Толькі праз разважанне аб Хрысце. Калі наша сэрца і розум з Езусам, Трыумфатарам, Які перамог смерць, грэх, сатану, усё – можам рабіць тое, аб чым нас просяць Езус і апостал Павел: быць пакорнымі, сціплымі, добрымі, пяшчотнымі, доўгацярплівымі, велікадушнымі. Калі не глядзім на Езуса, калі не знаходзімся з Ім, мы не можам зрабіць гэтага. Гэта ласка – ласка, якая прыходзіць ад сузірання Езуса", – падкрэсліў Папа.

"Ён зробіць усё астатняе. Ён зробіць усё, чаго не хапае. Але ты павінен рабіць так: схаваць сваё жыццё з Богам у Хрысце. Гэта робіцца праз сузіранне чалавечнасці Езуса, чалавечнасці, якая пакутуе", - адзначыў Папа.

## Касцёл як знак адзінства

Перад тварам пагрозы новай глабальнай вайны, якая нараджаецца з улоння людскога эгаізму, супрацьвагаю павінна выступіць супольнасць людзей Божых, Касцёл Хрыста як знак адзінства кожнага з кожным і ўсіх разам з Богам. Супольнасць людзей, у якой кожны важны, кожны каштоўны – гэта лекі ад хваробы сучаснасці. Будуецца такая супольнасць з цаглін, якімі ёсць хрысціянская сям'я.

Звяртаючыся да ўдзельнікаў 47-га Сацыяльнага тыдня італьянскіх католікаў на тэму "Сям'я, надзея і будучыня італьянскага грамадства", які пачаўся 12 верасня, Папа Францішак нагадаў, што сям'я – гэта прывілеяваная школа, у каторай можна навучыцца шчодрасці, дзяленню, адказнасці, школа, дзе вучаць пераўзыходзіць індывідуалістычную ментальнасць, што дамінуе ў нашым грамадстве.

Таму кожны з нас, молячыся да нашага Айца пра ласку і блаславенне для свету, пакліканы адначасова сваёй асабістай актыўнасцю праз будаванне хрысціянскай супольнасці любові і салідарнасці, пачынаючы з уласных сем'яў, набліжаць Валадарства нашага Бога і ўкараняць Яго праўду ў свеце людзей.

# Прэнатальная псіхалогія, або Некалькі парад для цяжарных



**Цяжарнасць з'яўляецца радасным і адначасова вельмі адказным і няпростым перыядам у жыцці жанчыны. Вось чаму існуе шмат літаратуры, якая змяшчае самыя розныя «падказкі» для будучых матуль: як правільна харчавацца, якія фізічныя практыкаванні рабіць, якія вітаміны ўжываць і г.д. Ці могуць і псіхолагі сказаць сваё слова ў гэтай размове?**

**Наталля Станкевіч**, *псіхолаг*

## Псіхічны стан маці і здароўе дзіцяці

Напачатку, напэўна, трэба высветліць, ці ўплывае псіхічны стан маці на здароўе і стан дзіцяці ва ўлонні. Насамрэч, так. Зразумела, што не на сто працэнтаў, але пэўная залежнасць ёсць. Гэта праўда, што дзіцятка можа адчуваць псіхалагічны стан маці і рэагаваць на яго, асабліва на вялікіх тэрмінах цяжарнасці. І тут няма ніякай містыкі: эмоцыі ўплываюць на наш фізічны стан – ціск, пульс, насычанасць крыві кіслародам і г.д. Калі маці пастаянна нервуецца, жыве ў стрэсе – гэта можа мець негатыўны ўплыў на стан дзіцяці. Таму калі хтосьці звяртаецца па кансультацыю, псіхатэрапеўты часта пытаюцца, як прайшла цяжарнасць маці кліента, ці збыў (была) ён (яна) жаданым дзіцём і г.д.

Зразумела, што ўплыў маці на дзіця працягваецца і нават узмацняецца пасля нараджэння, але падчас цяжарнасці закладваецца тая аснова, на якой будзе адбывацца далейшае развіццё маленькага чалавека.

> **...цяжарнасць, роды і маленства дзіцяткі – гэта для жанчыны час псіхалагічнага вяртання ў яе ўласнае дзяцінства**

Як жа ўплывае цяжарнасць на псіхалагічны стан жанчыны і дзіцяткі?

Наконт спецыфічнага эмацыйнага стану цяжарнай жанчыны напісана вельмі шмат. Адзначаюць яе непрадказальнасць, павышаную эмацыйнасць, частыя змены настрою і г.д. Мне хацелася б звярнуць увагу на больш глыбокі ўзровень эмацыйнасці цяжарных. Справа ў тым, што цяжарнасць, роды і маленства дзіцяткі – гэта для жанчыны час псіхалагічнага вяртання ў яе ўласнае дзяцінства. І гэта неабходна таму, што інакш жанчына проста не змагла б усталяваць псіхалагічную сувязь са сваім немаўляткам, зразумець яго жаданні і патрэбы.

Разам з тым вяртанне ў дзяцінства мае і свае адмоўныя бакі: ажываюць усялякія дзіцячыя страхі, трывогі, пачуцці, пра якія жанчына, магчыма, не памятала ўжо доўгія гады. Гэтыя «візіцёры» з дзяцінства настолькі моцныя, што часам робяць паводзіны жанчыны неадэкватнымі, апускаючы яе на адну прыступку з маленькай дзяўчынкай.

Фізічны стан цяжарнай жанчыны часта спрыяе развіццю такіх страхаў і навязлівых пачуццяў. Цяжарнасць – гэта вельмі маштабны працэс: фізічны, фізіялагічны, гарманальны. І, зразумела, ён не можа праходзіць без розных фізічных праяваў. Таму цяжарная жанчына пастаянна прыслухоўваецца да сябе, адзначае змены ў сваім стане: то штосьці ўкалола, то забалела, то нешта яшчэ... Безумоўна, што, калі такія змены накладуцца на павышаную трывожнасць самой жанчыны, гэта можа стаць прычынай пастаяннага стрэсу для яе. А калі ўжо, барані божа, пачынаюцца сапраўдныя складанасці – моцныя болі, з'яўляецца кроў, – гэта натуральны шок для жанчыны.

## Выхаванне ва ўлонні

Што ж датычыць дзіцяткі, то цяпер модным стала размаўляць пра «выхаванне ва ўлонні». Што гэта такое? Зразумела, што мы не можам яшчэ да нараджэння пачаць тлумачыць дзіцяці правілы паводзінаў, нешта забараняць ці дазваляць яму, адным словам, абыходзіцца з ім так, як мы выхоўваем дзяцей больш старэйшага ўзросту. Сутнасць выхавання, аднак, зусім не ў тым, каб навучыць дзіця добрым манерам.

> **...можна і нават патрэбна размаўляць з дзіцём, казаць яму пра свае пачуцці, пра радасць чакання**

Тое, што сапраўды можа зрабіць мама для дзіцяці, пакуль яно яшчэ ва ўлонні, – гэта перадаць яму адчуванне, што яно патрэбнае, чаканае, вельмі важнае і дарагое. Як гэта зрабіць?

Перш за ўсё, трэба пастарацца адчуваць гэта самой. Зразумела, што не заўсёды цяжарнасць праходзіць лёгка. Часам хваляванні, страхі і трывогі маці становяцца вельмі моцнымі. Але варта прыкласці намаганні дзеля таго, каб прыняць і палюбіць маленькую істоту, якая чакае нараджэння пад вашым сэрцам. Цікавіцца, якім будзе гэта дзіцё. Быць гатовым прыняць яго такім, якім яго створыць Бог. Прыняць разам з ім усе радасці і непазбежныя цяжкасці. Далей можна і нават патрэбна размаўляць з дзіцём, казаць яму пра свае пачуцці, пра радасць чакання.

## Цяжарнасць і духоўнасць

Вельмі важнай часткай выхавання ва ўлонні з'яўляецца таксама прыняцце сакрамантаў, актыўнае хрысціянскае жыццё. Тут, аднак, варта памятаць, што сакраманты, у тым ліку Эўхарыстыя – гэта не нейкі магічны сродак, які абавязкова зробіць ваша дзіця паслухмяным (здаровым, разумным, прыгожым, шчаслівым і г.д.). Гэта тое, што ўмацуе ягоную сувязь з Богам – сувязь занадта складаную і таямнічую, каб мы маглі зразумець яе розумам, а тым больш адчуць на ўзроўні пачуццяў. Гэта не нейкая панацэя ад усіх праблем і клопатаў.

Такім чынам, фізічны, псіхалагічны і духоўны стан маці аказваюць моцны ўплыў на развіццё яе дзіцяці. Клопат аб належным здароўі, эмацыянальная ўраўнаважанасць, радаснае чаканне і прыняцце маленькага, падмацаванні Божай прысутнасцю ў Ягоным слове і сакрамантах, – гэта неабходныя ўмовы, каб нарадзіць здаровага, фізічна, псіхічна і духоўна паўнавартаснага чалавека.

# Хто такія езуіты?

**Езуіт… Для многіх людзей гэтае слова асацыюецца з глыбокай духоўнасцю ("ігнацыянскія медытацыі"), высокаадукаванымі і сціплымі манахамі, якія захапляюць сваёй эрудыцыяй і адкрытасцю на самыя розныя праяўленні культуры. Для іншых – гэта нейкае цьмянае слова з урокаў школьнай гісторыі. А для старэйшага пакалення, выхаванага на расійска-імперскай і савецкай літаратуры, "езуіт" – гэта сінонім кагосьці хітрага, крывадушнага, "пасобніка заходняга імперыялізму". Дык хто ж яны на самай справе? Кім яны былі для Касцёла і Беларусі? І хто яны цяпер?**

**■ кс. Андрэй Рылка**

### Заснаванне ордэна

Манаскі ордэн езуітаў (дакладная назва: Таварыства Езуса) паўстаў дзякуючы старанням маладога іспанскага шляхціца Ігната Лаёлы. Перажыўшы глыбокае вяртанне да Бога, гэты малады чалавек заснаваў манаскую супольнасць, якая ў 1540 годзе была афіцыйна зацверджаная Папам Паўлам III. Новапаўсталы ордэн паставіў перад сабой мэту спрыяць хрысціянскай адукацыі, выхаванню моладзі, дапамагаць у навучанні і духоўным фарміраванні будучых святароў.

З'яўленне новай манаскай супольнасці прыпала на вельмі складаны перыяд. Фактычна ў той самы час, на пачатку XVI ст., у многіх рэгіёнах Еўропы пачалі ўтварацца і актыўна дзейнічаць разнастайныя групоўкі пратэстантаў, якія распаўсюджвалі самыя неверагодныя погляды на рэлігію. Выкарыстоўваючы слабую адукаванасць насельніцтва, лідары новых рэлігійных груповак маглі лёгка маніпуляваць вернікамі. Таму для каталіцкага свету актыўнасць новапаўсталага манаскага таварыства ў галіне асветы і выхавання выглядала як дар Божага Провіду. Езуіты пачалі паўсюдна арганізоўваць асяродкі адукацыі і выхавання: прытулкі, школы, калегіумы, акадэміі. Ім удалося стварыць саму передавую на свой час сістэму адукацыі ў Еўропе.

### Езуіты ў Беларусі

Вельмі хутка айцыезуіты былі запрошаныя на беларускія землі. Праз 20 гадоў ад заснавання ордэна, у 1560-я, яны пачалі сваю асветніцкую працу – спачатку на Віленшчыне, Полаччыне, а пасля і ва ўсіх значных гарадах нашай краіны.

**...на беларускіх землях манахі ордэна езуітаў арганізавалі адзін з першых ва Усходняй Еўропе ўніверсітэт (акадэмію)**

Менавіта на беларускіх землях манахі гэтага ордэна арганізавалі адзін з першых ва Усходняй Еўропе ўніверсітэт (акадэмію): у 1579 г. у Вільні, а пазней, у 1812 г., – у Полацку. Многія пакаленні духавенства, магнатаў, шляхты, мяшчан і здольнай сялянскай моладзі навучаліся ў шматлікіх езуіцкіх калегіумах, сярод якіх варта ўзгадаць Полацкі (1581), Нясвіжскі (1584), Пінскі (1638), Віцебскі (1637), Мінскі (1631), Аршанскі, Магілёўскі, Гарадзенскі, Мсціслаўскі, Чачэрскі, Клімавіцкі.

Дзякуючы сваймy прынцыпу "інкультурацыі" (адкрытасці на кожную культуру) езуіты прымалі на навучанне ў свае калегіумы і акадэміі ўсіх ахвотных, незалежна ад іх нацыянальнасці і веравызнання. Дзякуючы ім сёння мы ганарымся цэлым шэрагам вялікіх постацяў, якія зрабілі бясцэнны ўнёсак у развіццё навукі і культуры не толькі Беларусі, але і ўсяго свету. Выхаванцамі езуітаў былі Сімяон Полацкі, Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, Валенцій Ваньковіч, Ян Баршчэўскі, Васіль Лужынскі і інш.

Нягледзячы на выгнанне айцоў-езуітаў і разрабаванне іх спадчыны ў XIX-XX стст., яны пакінулі нам велічныя храмы, багатыя бібліятэкі, навуковыя лабараторыі, творы мастацтва. Дзякуючы іх стараням у часы русіфікацыі і паланізацыі не спынялася гучанне беларускай мовы і выданне беларускай кнігі.

На пачатку XXI стагоддзя мы не перастаём з вялікім трымценнем маліцца ў велічных езуіцкіх касцёлах, напрыклад, у Нясвіжы або Гродне. Радуемся, калі бачым зноў, як у былыя часы, грамадкі студэнтаў на лекцыях у векапомных гмахах езуіцкай Полацкай акадэміі, дзе цяпер месціцца адзін з факультэтаў Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Няхай айцы-езуіты застануцца ва ўдзячнай памяці кожнага з нас, бо дзеля ўзрастання веры і культуры нашага народа яны тут жылі, маліліся і працавалі.

**Выхаванцамі езуітаў былі Сімяон Полацкі, Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка**

Памяці святара



## Мінскія грэка-каталікі адзначылі 15-я ўгодкі смерці а. Яна Матусевіча

**2 верасня мінскія грэка-каталікі ў заўпакойнай малітве памянулі протапрэсвітара Яна Матусевіча ў 15-я ўгодкі ягонай смерці.**

Айцец Ян быў першым душпастырам грэка-каталікоў у Беларусі, які пачаў адкрытую душпастырскую дзейнасць, а пазней стаў пробашчам першай зарэгістраванай парафіі праведнага Язэпа ў Мінску. З яго пачалося адраджэнне Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

У гэты дзень у касцёле Узвышэння Крыжа Гасподняга на Кальварыйскіх могілках апостальскі візітатар для грэка-каталікоў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек узначаліў заўпакойную Боскую Літургію ў саслужэнні мінскіх грэка-каталіцкіх святароў.

Пасля Літургіі на магіле была адслужаная Паніхіда. Слова прамовіў а. Андрэй Абламейка, які быў асабіста знаёмы з а. Янам. Сярод удзельнікаў малітвы былі шматлікія вернікі, якіх а. Ян хрысціў, вянчаў, рыхтаваў да споведзі. Былі таксама першыя семінарысты айца Яна: а. Андрэй Абламейка і а. Пахом Кавалёў.

*Паводле svjazep.org*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**22 верасня 2013 г. — Лк 16, 1-13**

Хрысціянін павінен прыкладаць столькі намаганняў у барацьбе за жыццё вечнае, колькі прыкладаюць людзі, змагаючыся за часовае шчасце. Матэрыяльныя даброты важныя і вартыя, але хутка мінаюць. А каштоўнасці духоўныя маюць вечную вартасць. Трэба карыстацца часовымі дабротамі для здабывання вечных каштоўнасцяў. Трэба добра і ўмела карыстацца жыццём і часовымі дабротамі, каб яны сталі пачаткам вечных каштоўнасцяў.

*– Як карыстаюся дарамі, якія атрымаў ад Бога?*

*– Ці будуюць ува мне Божае Валадарства маё жыццё, праца, грошы, здароўе, пачуццёвасць і сексуальнасць?*

*– Ці развіваю ў сабе любоў, міласэрнасць, праўду, пачцівасць, пакору, якія вядуць да неба? А можа, пакланяюся толькі "мамоне" – маёмасці і багаццю зямному, забываючыся на Бога?*

*– Ці разумею, што добрае выкарыстанне Божых дароў вядзе нас да неба?*

**29 верасня 2013 г. — Лк 16, 19-31**

Добры Бог бачыць няшчасце бедных і пакрыўджаных. Бачыць абыякавасць багатых і моцных. Кліча нас да ўражлівасці, справядлівасці і салідарнасці. Ён адплаціць справядлівым.

*– Ці бачу бяду другога чалавека?*

*– Ці ўражлівы на няшчасце іншага?*

*– Ці мае праблемы не зрабілі маё сэрца цвёрдым і абыякавым?*

*– Ці заўважаю маральныя пакуты грэшніка?*

*– Ці здолею заўважыць боль чалавека з параненымі эмоцыямі?*

*– Ці здольны падзяліцца тым, што маю?*

*– Ці дапамагаю матэрыяльна тым, хто мае патрэбу?*

*– Ці дапамагаю эмацыянальна параненым і як гэта раблю?*

*– Ці дапамагаю грэшнікам і як гэта раблю?*

*– Ці дапамагаю людзям паверыць у любоў і як гэта раблю?*

**6 кастрычніка 2013 г. — Лк 14, 25–33**

Нават маленькая, як зярнятка гарчыцы, вера – магутная. Трэба жыць ёй, а Бог дадасць астатняе. Найперш вера праяўляецца ў нязгодзе са злом, якое забівае любоў. А таксама ў міласэрнасці, якая перамагае зло. Вера – гэта трыванне з даверам пры Богу ў штодзённым жыцці. Вучань Езуса – гэта чалавек, паслухмяны веры, які ведае, што без Бога нічога не зможа зрабіць. Які разумее, што з'яўляецца маленькім супрацоўнікам вялікага Бога.

*– Якая мая вера?*

*– Ці жыву паводле Божай волі?*

*– Ці супрацоўнічаю з Ім?*

*– Ці змагаюся за любоў?*

*– Ці давяраю Богу?*

*– У якіх учынках праяўляецца гэты давер?*

*– Ці з'яўляюся пакорным удзельнікам Божай справы?*

*– Ці пытаюся ў Бога пра Яго волю?*

*– Ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці паслухмяны Яму?*

*– Ці вырашаю свае праблемы з Богам і па-Божаму?*

**13 кастрычніка 2013 г. — Лк 17, 11-19**

Езус, перад Якім упаў на калені самарыцянін, з'яўляецца Збаўцам. Паслухмянасць Яго слову дае жыццё. Прызнанне Яго Богам дае жыццё вечнае.

*– Кім для мяне з'яўляецца Езус?*

*– Ці суадношу з Ім усё, што маю, і кім з'яўляюся?*

*– Ці паслухмяны Яго слову?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці памятаю, што Ён – Бог – крыніца і сэнс майго жыцця?*

*– Ці дзякую Яму за тое, што Ён робіць для мяне?*

*– Ці заўважаю Яго дзеянне ў маім жыцці?*

*– Ці захапляюся Яго любоўю да мяне праз малітву праслаўлення?*

**20 кастрычніка 2013 г. — Лк 18, 1-8**

Бог чуе нашы малітвы. І адказвае. Нельга паддавацца апатыі і сумненням, але даверліва маліцца. Бо інтэрвенцыя Божая абавязкова будзе. Ён зробіць тое, што трэба, так, як трэба, і тады, калі трэба. Бо Ён – Бог. А нам трэба з даверам маліцца. Таксама і ў сітуацыі, калі падобны да ўбогай удавы: бедны, безабаронны і нешчаслівы.

*– Ці веру, што Бог чуе кожную маю мальбу? Як да Яго звяртаюся?*

*– Мая малітва свядомая ці аўтаматычная?*

*– Мая малітва верная?*

*– Выліваю перад Ім усё сваё сэрца?*

*– Ці чую тое, што Ён да мяне гаворыць: у Божым слове, у навуцы Касцёла, у натхненнях і ў жыццёвых праблемах?*

*– Ці прымаю суцяшэнне, мудрасць і моц, якімі Ён адорвае мяне на малітве?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

Паставы

# Адпачынак і прыгоды

**З 3-га па 11-га і з 12-га па 20-га жніўня гэтага года пры пастаўскім касцёле праходзілі летнікі "Канікулы з Богам", у якіх прынялі ўдзел больш за 75 хлопчыкаў і дзяўчынак. Гэтыя лагеры ладзіліся пры падтрымцы гарадскіх уладаў.**

■ **Жанна Аўласевіч**, *тэкст;* **Аліна Семяніхіна**, *фота*

Варта зазначыць, што кожны год пры нашым касцёле адбываецца ад трох да пяці такіх летнікаў. Час пралятае вельмі хутка. Хлопчыкі і дзяўчынкі потым з вялікай неахвотай развітваюцца і разыходзяцца дамоў.

Сёлета дзеці падчас летнікаў штодня прымалі ўдзел у Св. Імшы і размовах пра Бога. Праграма адпачынку была вельмі насычанай. Так, адзін тур летніка меў прыгодніцкую экскурсію-вандроўку па экасцежцы на Блакітных Азёрах, што на Лынтупшчыне. Падчас другога туру дзеці былі ў пазнавальнай паездцы-экскурсіі ў касцёлах у Міхалішках і Гярвятах.

Таксама адбываліся экскурсіі па горадзе: у краязнаўчы музей, у міліцыю, у дзіцячую бібліятэку і вайсковую верталётную частку.



**На здымку:** кс. Анатоль Захарэўскі расказвае дзецям пра касцёл у Міхалішках.



Начлег у намётах на беразе возера пакінуў незабыўныя ўражанні ў прагных да прыгодаў маладых сэрцах. Дзеці моцна палюбілі купанне ў басейне ля плябаніі. Самыя актыўныя ўдзельнічалі ў футбольных матчах. Кожны вечар ладзіліся так званыя "пагодныя" ці "зялёныя" вечары, на якіх былі розныя гульні, конкурсы і вогнішчы са смачнымі смажанымі каўбаскамі.

Выхавальнікамі працавалі педагогі з аддзела адукацыі. Ім дапамагалі с. Ёнатана і с. Ээзхіэля, дыякан Аляксандр Фядотаў і клерык Дзмітрый Прыступа.

Хочацца падзякаваць нашаму пробашчу кс. Анджэю Возьняку, які кожны год стараецца, каб дзеці мелі такі цудоўны адпачынак.

Вельмі шкада, што лета ўжо скончылася. Але дзеці з нецярплівасцю чакаюць наступнае, каб сустрэцца зноў. І не толькі адпачыць і добра правесці час, але і праз Св. Імшу і размовы быць бліжэй да Езуса – найлепшага Сябра дзяцей.

Муляры

# Водгукі лета

Пішу ўпершыню. Працую настаўніцай матэматыкі ў базавай школе. Пачаўся новы навучальны год, зноў трэба навучаць і вучыцца самой. Але ў памяці вяртаюся да тых радасных падзей, якія перажыла ў часе адпачынку. Пан Бог шчодра адорвае нас шматлікімі ласкамі, прапануе нам сустрэчы з Маці Божай, са святымі, з людзьмі, якімі кіруе Святы Дух.

Гэтым летам стала радасцю спатканне супольнасці "Маці ў малітве", якое адбылося ў Чырвоным касцёле, пілігрымка да Будслаўскай святыні, Святыя Місіі ў родным камайскім касцёле. Чатыры разы пашчасціла ўшаноўваць рэліквіі св. Тэрэзы ад Дзіцяткі Езус. Але асабліва хочацца адзначыць паездку ў Баранавічы на рэкалекцыі руху факаляраў, якія праходзілі тры дні. Вельмі цікавай і насычанай была праграма.

Успамінаюцца цудоўныя сведчанні веры, сустрэчы ў групах, супольная малітва і Камунія з Езусам. А галоўнае – гэта прабыванне ў цёплай, добразычлівай атмасферы, дзе пануе пашана чалавечай годнасці, узаемаразуменне, дапамога, дзе адчуваеш сябе нібы рыба ў вадзе. Тут я пазнаёмілася з людзьмі, якія імкнуцца да святасці, якія жывуць словам Божым, крочаць па жыцці дарогай Божых запаведзяў. Адчувалася духоўнае адзінства людзей розных узростаў і канфесій, якія прыехалі з розных куткоў Беларусі і замежжа.

Я вельмі ўдзячная арганізатарам гэтых рэкалекцый: Анжаліцы, Тэрэзе, Наталлі, Гэлене, Раману, Алегу і ўсім, хто быў разам. Асаблівая падзяка кс. Чэславу Куцмежу, які быў нашым духоўным кіраўніком, бласлаўляў нашы пасяджэнні, праводзіў св. Імшу, удзяляў св. Сакраманты. Няхай Пан Бог аддзячыць Вам, кс. Чэслаў, за прысутнасць з намі, за адкрытасць, пастырскі клопат, дабрыню і спагаду.

Надоўга застанецца ў памяці і сэрцы тое святло і цяпло Божай ласкі, якое будзе саграваць у часе штодзённай працы, жыццёвых цяжкасцяў, выпрабаванняў у веры. Хачу параіць усім людзям добрай волі: не бойцеся дотыку Божай любові, даверце сваё жыццё Пану Богу.

*З павагай,* ***Яніна Сінкевіч*** *(в. Муляры Пастаўскага р-на)*

Астравец

# Пілігрымка па святынях

Зусім нядаўна парафіянам парафіі Св. Космы і Дам'яна ў Астраўцы ксёндз-пробашч Юзаф Багдзевіч прапанаваў паломніцкую паездку па святынях нашай Гродзенскай дыяцэзіі.

Спачатку нават здавалася, што нас будзе няшмат, але ў апошнія дні перад выездам колькасць ахвотных павялічвалася з кожнай гадзінай (сабралася 75 чалавек). Можа, таму што адным з асноўных пунктаў праграмы быў начлег на новым месцы працы былога ксяндза-вікарыя парафіі Св. Космы і Дам'яна Віктара Захарэўскага (парафія Анёла Ахоўніка, в. Раготна Дзятлаўскага раёна). Кс. Віктар з радасцю згадзіўся арганізаваць начлег для ўсіх пілігрымаў, каб мы маглі пазнаёміцца з мясцовымі парафіянамі. Яны адкрылі свае сэрцы і дзверы сваіх дамоў для нас – і ўсе мы пачуліся адной вялікай хрысціянскай сям'ёй!

Нашымі "анёламі-ахоўнікамі" падчас гэтай пілігрымкі былі кс. Павел Гардзейчук (вікарый пар. Св. Космы і Дам'яна) і с. Наталля Марозава (эўхарыстка, якая служыць у пар. Св. Космы і Дам'яна). Ад усяго сэрца хочацца падзякаваць кс. Паўлу і с. Наталлі за іх цярплівасць, адкрытыя сэрцы і дапамогу ў кожнай справе, а таксама за стварэнне прыемнай атмасферы ў ходзе пілігрымкі.

Час праляцеў вельмі хутка, як гэта заўсёды бывае з добрымі падзеямі, але ў нашай памяці і ў нашых сэрцах назаўсёды застануцца вобразы несамавіта прыгожых святынь і помнікаў архітэктуры і мастацтва. Шлях нашай пілігрымкі пралягаў праз Трабы, Іўе, Ліду, Слонім, Жыровічы, Дзятлава, Раготна (першы дзень) і Навагрудак, Мір, Нясвіж, Барунь (другі дзень).

Трохі стомленыя, але вельмі задаволеныя ўсе мы вярнуліся дамоў, у родную астравецкую парафію, дзе нас ужо чакаў наш пастыр кс. Юзаф, дзякуючы каторому гэта пілігрымка сталася шчаслівай рэальнасцю. Будзем памятаць у сваіх малітвах пра нашых святароў і праўсіх, хто прычыніўся да арганізацыі гэтай пілігрымкі, з удзячнасцю ў сэрцы.

***Яўгенія Раткевіч****,ад імя ўсіх парафіян Астраўца з пар. Св. Космы і Дам'яна*

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6966

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.09.2013 г. у 19.34

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ